# ВАШ САД І АГАРОД

Матэрыялы выпуску падрыхтаваў да друку Мікалай ЧАХОЎСКІ (тэл. 32-41-92).

## Рыхтуем насенне бульбы

Пачатак заняткаў у школе звязаны з самай працаёмкай работай на палетках — копкай бульбы. Лета сёлетняга года аказалася неспрыяльным для «другога хлеба» па двух паказчыках: высокай тэмпературы і нізкай вільготнасці. Палівы на агародах патрэбнага эфекту не далі, бо былі павярхоўнымі. А вада патрабавалася на глыбіні залягання асноўных каранёў — да 25—35 см. Высокая тэмпература (часам глеба была, што тая духоўка) запавольвала ці спыняла ўтварэнне клубняў.

І ўсё ж нешта капаць трэба. Спачатку зразаем ці скошваем бульбоўнік. Гэта для таго, каб скура ў клубнях добра загрубела і не пашкоджвалася пры перавозках і перасыпках. Саму копку праводзім праз тыдзень.

Добра, калі ёсць магчымасць прасушыць ураджай на сонцы ці проста на ветры ў нейкіх паветках. Засыпаць на захоўванне трэба толькі здаровыя клубні. Пашкоджаныя рыдлёўкай і хворыя выкарыстоўваюцца ў першую чаргу.

Важны момант — адбор насення. Пры ручной уборцы кожны куст, як кажуць, на відавоку. Нашу ўвагу павінны прыцягнуць найбольш ладныя і здаровыя карчы. Для насення адкладваем асобіны з курынае яйка (можна крыху большыя ці меншыя). На кожным павінны быць добрыя пупышкі. Такія экземпляры азяленім на сонцы, добра вымыем, апусцім на 10 мінут у раствор меднага купарвасу (5 г на вядро вады) прасушым. Складаем у драўляныя скрынкі — і на захоўванне ў падвал. Там цёмна, холадна, умерана вільготна. Бульбу можна нават перасыпаць высушаным рачным пяском ці пяском, узятым з кар'ераў. Ён пазбаўлены узбуджальнікаў хвароб, асабліва гніляў. Бульба ў ім захоўваецца цудоўна.

На кожнай скрынцы напісаны назва сорту, калі ўбраны, чым апрацаваны. Гэта для таго, каб вызначыць прычыну няўдачы, калі такая здарыцца.

Насенны матэрыял можна захоўваць і ў зямлі — сваіх мінікапцах. Але ў іх не павінны залазіць мышы. Вядома, трэба ўсё прадугледзець, каб капцы не затапляліся вадой.

На здымку вы бачыце адабраныя клубні сярэдняранняга сорту «адрэта». Некаторыя калівы дробныя — у палавіну яйка. Але яны выдатна сфарміраваныя. Маленькія бульбінкі дадуць жыццё гігантам у 200 і больш грамаў. Асобныя цёмныя кропелькі (плямкі паршы) будуць акуратна зняты пасля мыцця драўлянай палачкай з завостраным рабром. Для бульбіны такая «касметыка» не шкодная.

## Парэчка з... алоўкаў

На пачатку восені аглядаем кусты чорнай і чырвонай парэчак — шукаем аднагадовыя парасткі вышынёю ад паўметра і больш і дыяметрам стволіка з аловак. Яны неабходныя для пасадак. Ніз і верх атожылкаў адразаем сякатарам — там пупышкі слабыя, дрэнна развітыя. Патрэбнага эфекту не дадуць. Выдаляем лісце.

З сярэдзіны дубчыка рыхтуем чараночкі даўжынёю з аловак. На такім чаранку павінна быць не менш трох пупышак. Верхні зрэз — абавязкова над пупышкай, якая дасць парастак. Вядома, яна павінна быць моцнай, добра развітой.

Часта парэчка хварэе. Каб абясшкодзіць будучую пасадку, змесцім гатовыя чаранкі-алавачкі ў ваду з тэмпературай 45 градусаў. Час «лазні» — 12 — 15 мінут. Пасля — халодны шасцімінутны душ.

Падрыхтаваны матэрыял утыкаем у рыхлую, добра ўгноеную градку (верхняя пупышка на ўзроўні глебы), градка сонечная і роўная, веснавыя воды яе не заліваюць, грунтавыя не бліжэй за 1,5 метра. Садзім чаранкі радамі, адлегласцю ў 30—40 сантыметраў, адзін чаранок ад другога на столькі ж. Глебу добра паліваем, мульчыруем перагноем ці торфам. Можна і зямлёй.

Тэрмін пасадкі чорнай парэчкі — увесь верасень, чырвонай — з 5 па 20 верасня. Якраз пара брацца за справу.

Звычайна да замаразкаў чаранкі даюць кволыя белыя карэньчыкі — да 2—4 сантыметраў. Вясной градку рыхлім, чакаем вясёлых зялёных парасткаў. За лета яны вырастуць ладнымі і гатовымі да перасадкі на пастаяннае месца. Іх абразаем нізка — на 3—4 пупышкі, каб куст атрымаўся моцным і густым.

Чырвоная парэчка можа за адзін год і не набраць патрэбнага разбегу. Яе пакідаюць зімаваць на ранейшым месцы, крыху падрэзаўшы. За два гады яна сфарміруецца як след.

Цяпер думайце, паважаныя чытачы, ці абавязкова ісці на базар і плаціць за кусцік вялікія грошы. Можа і самім пад сілу атрымаць добрыя саджанцы? Для сябе, родных і проста знаёмых. Вялікіх ведаў тут не патрабуецца. Толькі старанне.

## Вапнаванне глебы

**У маім старым садзе зямля пакрыта зялёным мохам. А яшчэ шмат расце конскага шчаўя. Як іх звесці?**

**г. Мінск. В. ВОЙНІЧ.**

Мяркуючы па пісьму, глеба ў садзе (ды і агародзе) кіслая. Большасць раслін будзе развівацца марудна. Каранёвая сістэма прыгнечана. Мочкі каранёў абмежаваныя ў сваіх размерах. Вядома, яны не ў стане засвоіць нават тыя ўгнаенні, якія ўносім.

На кіслых участках шмат рухомага алюмінію. А гэты элемент парушае вугляводны, бялковы і фасфатны абмены. Надзвычай абмежавана карысная дзейнасць розных мікраарганізмаў, бактэрый, якія «гатуюць ежу» раслінам.

Павышаную кіслотнасць можна вызначыць па пустазеллю. Конскае шчаўе, макрыца, розныя елачкі, дзікая рэдзька, зялёны мох — усё гэта ўказвае на недахоп кальцыю і магнію. Заўважым, што беларускія землі амаль паўсюдна кіслыя. У нас жа было шмат лясоў, балот. А ўсё гэта якраз вядзе да кіслай рэакцыі.

Для вызначэння патрэбнасці вапнавання неабходна зрабіць аналіз глебы. Трэба звярнуцца ў раённыя аграхімлабараторыі. Там раскажуць, як узяць пробы, пасля зробяць аналізы, дадуць рэкамендацыі.

Можна нешта даведацца і самому. Бярэцца глеба з розных месц і рознай глыбіні (верхні слой і на глыбіні 25 см). Усё старанна змешваецца. Кілаграм такой сумесі змочваюць дажджавой вадой, з маразільнай камеры халадзільніка ці проста дыстыліраванай. Кавалачак змочанай зямлі разам з індыкатарнай паперай сціскаем у руцэ. Праз некаторы час паперка набудзе афарбоўку. Параўнаўшы з кантрольнай шкалой, вызначым кіслотнасць.

Кіслотнасць пазначаецца літарамі pH (пэ аш) і лічбавым паказчыкам. Надзвычай кіслыя глебы — pH 3—4, кіслыя —pH 4—5, слабакіслыя — pH 5—6, нейтральныя — pH 6—7, шчолачныя — pH 7—8. Заўважым, што толькі бульба, лён, яшчэ адзінкі культур могуць расці ў «кіслым асяроддзі». Большасць раслін патрабуе рэакцыі ад слабакіслай да нейтральнай.

Пры нейтральнай рэакцыі глебы (pH 7—7,5) добра развіваюцца капуста (амаль усе віды), морква, буракі, салата, сельдэрэй, цыбуля, пятрушка, арцішок. На ступень ніжэй (pH 6—7) павінна быць рэакцыя глебы для часнаку, фасолі, баклажанаў, радыскі, памідораў, рэпы, агуркоў, шпінату, хрэну, рэвеню; рэакцыя pH ад 5 да 6 спрыяе бульбе, гарбузам, пастарнаку, шчаўю.

Вапнаванне глебы робіцца звычайна восенню, у час перакопкі. Дробная сухая фракцыя вапны, даламітавай мукі, мелу рассыпаецца (тры чвэрці нормы) па паверхні і закопваецца на глыбіню лапаты ці пад плуг. Зверху рассыпаецца астатняе і загортваецца пад граблі ці барану.

Фракцыі матэрыялу для вапнавання павінны быць дробнымі і сухімі (пыл). Кавалачкі ў сантыметр і большыя неабходна разбіваць і высушваць.

**Вось норма для вапнавання (кілаграмаў на адну сотку):**

| Глебы | Кіслотнасць pH | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 4,5 | 4,6 | 4,8 | 5,0 | 5,2 | 5,4-5,6 |
| Супясчаная ці лёгкі суглінак | 40 | 35 | 30 | 25 | 20 | 20 |
| Сярэдне- і вельмі суглiністая | 60 | 55 | 50 | 45 | 40 | 35 |

Ці можна рабіць вапнаванне разам з унясеннем угнаенняў? Вядома, можна. Спачатку раскідваюць вапну, а па ёй —гной ці кампост. Тут жа заворваюць ці перакопваюць. Арганічныя ўгнаенні атрымліваюць нібы дадатковы стымул. Адзін гной таксама зніжае кіслотнасць, але не да патрэбнага ўзроўню.

Звычайна вапнаванне робяць адзін раз у тры-чатыры гады.

## Да ўвагі чытачоў

**На працягу года мы імкнуліся даць неабходную інфармацыю па агароднінных культурах і садавіне. Цікава ведаць, ці знайшлі нашы міні-парады сваё прымяненне? Які яго плён?**

**Напішыце пра гэта хоць бы некалькі радкоў. Нам цікава таксама, што засталося па-за ўвагай аддзела. Разам, мяркуем, зможам усё давесці калі і не да ідэалу, дык набліжана да яго.**

**Асабліва цікава, ці дапамог месячны каляндар, які змяшчаем вясною і які адрозніваецца ад іншых падобных публікацый у рэспубліканскім друку? Гэты каляндар складае прафесар з Масквы, астраном. Мы друкуем яго на працягу некалькіх гадоў. І здаецца, пападанне было сапраўды алімпійскім. А як сёлета?**

**Упершыню ў канцы ўборкі мяркуем назваць адрасы найбольш важкіх экземпляраў гарбузоў, агуркоў, памідораў, буракоў, капусты, яблыкаў, груш, бульбы і г. д. А яшчэ самыя ўраджайныя сотку, куст, яблыню, сліву... Карацей, выявіць сваіх чэмпіёнаў. Нешта падобнае на рэкорды Гінеса. Так што ўзважвайце свае гіганты больш дакладна і дасылайце звесткі ў рэдакцыю (пажадана з фотаздымкамі чэмпіёнаў). Мы дадзім тлумачальны тэкст. Гаспадар атрымае павышаны ганарар — гэта і будзе яго прэмія.**

# Паляванне на маньяка, магчыма, скончылася, але...

**ТОЛЬКІ Ў АДНЫМ МІНСКУ ЗАСТАЕЦЦА ПРЫКЛАДНА 850 ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫХ ДЗІЦЯЧЫХ МАНЬЯКАЎ**

Лічба гэта прыведзена не выпадкова. Два месяцы назад горад ўзрушылі весткі аб тым, што з разрывам у некалькі дзён знойдзены забітымі і згвалтаванымі дзеці: хлопчык і дзяўчынка. Бацькі адразу ж павысілі пільнасць у наглядзе за сваімі нашчадкамі, рэзка былі абмежаваны прагулкі дзяцей у дзіцячых садах і яслях. Пракуратура і міліцыя падключылі да работы лепшых супрацоўнікаў, а сама справа па маньяку была ўзята на заметку беларускім урадам, які за дапамогу ў выкрыцці забойцы (ці забойцаў) устанавіў вялікую грашовую прэмію.

Органамі ўнутраных спраў ужо выяўлены не адзін і не два чалавекі з паталагічнымі змяненнямі ў псіхіцы, сексуальных запатрабаваннях.

Яшчэ больш — на прыкмеце. Глядзіш спіс, чытаеш крымінальныя справы і здзіўляешся: няўжо і такія людзі ёсць на свеце: «блакітныя», вампіры, некрафілы, заафілы. Ёсць, аказваецца. І яны жывуць сярод нас. Паводзіны іх непрадказальныя. Але ясна адно: гэта патэнцыяльныя забойцы і небяспечныя людзі, за якімі нават ужо цяпер можна штосьці знайсці.

А пакуль што зноў і зноў успамінаюцца ўжо затрыманыя. Магчыма, любы з іх і ёсць той маньяк, за галаву якога паабяцаны ўрадам сто тысяч рублёў...

Вадзіцель тралейбуса С. з Санкт-Пецярбурга. У свае 30 гадоў ужо быў асуджаны. Жанаты. Устаноўлена, што ён знаходзіўся ў перыяд забойстваў дзяцей на вуліцах Мендзялеева і Уральскай.

Яшчэ не даказана ступень яго дачынення да забітых. Але высветлілася, што ён учыніў распусныя дзеянні і акт мужаложства ў адносінах да малагодак. Інфармацыя аб гэтым была атрымана ў той час, калі ён пакінуў ужо Мінск. Хутка ён быў затрыманы ў Пскоўскай вобласці.

Дарэчы, ён увесь час быў у полі зроку сваякоў. Яны ведалі, што ён псіхічна ненармальны. Але не ўсе злачынцы паталагічна ненармальныя. Сярод іх ёсць і інтэлігентныя, адукаваныя людзі.

Са Сцяпянкі паступілі паведамленні, што ў гэтым раёне жыве падазроны мужчына, вельмі неабыякавы да малых дзяцей. Прыйшлося праверыць. Высветлілася, што гэтаму чалавеку 55 гадоў. Ён кіраўнік адной з праектных груп. Вельмі салідны мужчына. Добра апрануты. Займаўся распустай з непаўналетнімі.

Гэты грамадзянін на працягу амаль чатырох месяцаў «апрацоўваў» 11-гадовага хлопчыка з даволі добрай сям'і.

Ён пасвячаў падлетка ў адносіны мужчыны з жанчынай, а таксама ўводзіў у курс інтымных адносін мужчыны з мужчынам. «Драпежнік» не забываў частаваць хлапчука марожаным і цукеркамі. Пасля такой падрыхтоўкі ён пачынаў сваю чорную распусную справу. Заводзіў дзіця ўсё далей і далей. Сустрэчы назначаў як сапраўдны разведчык: з тыльнага боку якога-небудзь гандлёвага ларка змяшчаў запіску, у якой паведамляў аб месцы сустрэчы. Як ні дзіўна, хлопец, хоць і баяўся, але быў вельмі зацікаўлены ў сваім «настаўніку». Таму ён ахвотна ішоў у «разведку». Хто ведае, чым бы скончылася гэта гісторыя, каб «секс-настаўніка» не злавілі.

Калі «інтэлігент» удзяляў сваёй ахвяры шмат часу, то ёсць экземпляры, якія губяць дзяцей адразу. У асноўным гэта псіхічна неўраўнаважаныя і ненармальныя людзі.

К. доўгі час быў у полі зроку праваахоўных органаў горада. Маці яго ў свой час пільна сачыла за сынам, таму што ведала: любы адзіночны паход псіхічна хворага можа скончыцца трагічна. У рэшце рэшт так яно і здарылася. К. збег з вёскі, куды быў прывезены маці да сваякоў, і апынуўся ў горадзе. Пазней ён прызнаўся: калі ўзыходзіць сонца, яго цягне на «подзвігі». Да дзяцей.

Натрапіўшы на дзіцячы садок, ён кінуўся да пясочніцы, дзе гулялі дзеці, схапіў дзяўчынку і пачаў яе распранаць з мэтай згвалціць. Дзеці ўзнялі крык. Выбегла выхавальніца. Ідыёт кінуў сваю ахвяру. Людзі бачылі, як нейкі мужчына ўцякаў дварамі. Хутка ён быў затрыманы.

На гэтым можна, відаць, і закончыць пералік дзеянняў нелюдзяў, у якіх толькі адна мэта ў жыцці — гвалтаванне дзяцей.

Не хацелася б, вядома, запалохваць людзей. Проста добра было б, каб грамадзяне не былі ў баку ад праблем міліцыі і пракуратуры.

А пакуль што сітуацыя няясная. Магчыма, маньяк знойдзены, але не прызнаецца. На месцы злачынства засталося не так многа слядоў, каб адразу выкрыць гвалтаўніка і забойцу. А магчыма злачынца «пайшоў на дно» і зноў чакае свайго часу.

Ды і наогул вельмі цяжка яго распазнаць. У адным толькі Мінску каля 850 чалавек, ад якіх можна чакаць у адносінах да дзяцей самага горшага. І ў любы момант яны могуць «прачнуцца». А пакуль яны яшчэ дрэмлюць, не спаць трэба нам.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### БЫЎ ТАКІ КУПЕЦ

На Алтаі створаны «Дзямідаўскі фонд» — у гонар знакамітага ўральскага прамыславіка, які заклаў горад Барнаул. Створаны ім срэбраплавільны завод стаў своеасаблівай візітнай карткай гарнаруднай справы ў Сібіры. Фонд будзе займацца летапісам гарадоў і пасёлкаў, заснаваных Дзямідавым.

### І ТУТ «РУКА МАСКВЫ»!

У Італіі разгарэўся скандал: затрымана 30 бізнесменаў і палітыкаў, якіх абвінавачваюць у перадачы буйных сум на рахункі асобных партый. Прыкладна палова грашовых сродкаў знайшлася на рахунках сацыялістычнай партыі.

### ЗА ШТО ГЛУШАЦЬ «РАДАНЕЖ»?

У апошні час рэгулярнаму глушэнню на тэрыторыі Украіны пачала падвяргацца незалежная маскоўская праваслаўная радыёстанцыя «Раданеж», што з'яўляецца парушэннем міжнароднага права. Адна з магчымых прычын глушэння — праўдзівая інфармацыя «Раданежа» аб стане спраў былога мітрапаліта Філарэта.

### АДМОВІЛІСЯ АД «ВЯЛІКАГА БРАТА»

У канстытуцыю Кубы ўнесены змены, якія закранулі 76 артыкулаў. Выкінута, у прыватнасці, частка прэамбулы, у якой гаворыцца, што сацыялізм будзе будавацца на Кубе з «апорай на пралетарскі інтэрнацыяналізм, брацкую дружбу і дапамогу Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін». Па новай канстытуцыі Фідэль Кастра атрымаў права ўвядзення ваеннага становішча ў краіне.

### БЕСПРАЦОЎЕ — СПРАВА ЎСЕНАРОДНАЯ!

У Расіі агульная колькасць толькі зарэгістраваных беспрацоўных склала 202 тысячы 879 чалавек. На думку спецыялістаў, нават па самых аптымістычных прагнозах, гэтая лічба да канца года вырасце сама меней да 2 мільёнаў чалавек. Другія ж лічаць, што яна падскочыць да 4—6 мільёнаў.

### ШТО Ў ДЗЁННІКАХ ГЕБЕЛЬСА?

Лонданская газета «Сандзі таймс» пачала друкаваць дзённікі шэфа прапаганды «Трэцяга рэйха» Іозэфа Гебельса. Мяркуючы па іх, Гітлер збіраўся выйграць вайну без прамой канфрантацыі з Вялікабрытаніяй, у асноўным за кошт перамог над невялікімі еўрапейскімі краінамі.



### НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

У полацкім Сафійскім саборы і ў зале камернай музыкі Белдзяржфілармоніі адбыліся сольныя канцэрты вядомага арганіста і кампазітара з Гамбурга Эрнста Ульрыха фон Камеке. Віртуозная тэхніка і надзвычайная музыкальнасць выканаўцы надаюць яго праграмам асаблівы каларыт і непаўторнасць.

У Саюза музычных дзеячаў Беларусі складваюцца моцныя творчыя кантакты з грамадскімі музычнымі арганізацыямі Германіі. Пры садзейнічанні Германскага музычнага саюза ў Беларусь прыбыў і Эрнст Ульрых фон Камеке — прызнаны інтэрпрэтатар І.-С. Баха, цудоўны знаўца духоўнай музыкі, новых сучасных напрамкаў арганнай музыкі. Музыкант з Гамбурга працягвае ў Мінску творчыя кансультацыі.

НА ЗДЫМКУ: за арганам— Эрнст Ульрых фон Камеке.

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ. (БЕЛІНФАРМ).

## «Чысцюлям» — зялёнае святло

БРЭСТ (Ю. Фёдарава). Устаноўлена, што газ фрэон, якім напаўняюць балончыкі з дэзадарантам, разбурае азонавы слой зямлі. Згодна міжнародным дагаворам, фірмы ўсіх краін павінны знайсці замену фрэону. Брэсцкі завод бытавой хіміі справіўся з гэтай задачай. Яго прадукцыя бяспечная для азонавага слоя зямлі. Менавіта таму адна нямецкая фірма прапанавала Брэсцкаму заводу бытавой хіміі ўзаемавыгадныя ўмовы супрацоўніцтва. Як бачым, у стваральнікаў «чыстай» тэхналогіі больш шанцаў выйсці на міжнародны рынак, чым у «брудных». Што ж, гэта справядліва.

## НА ДВОР'Е

**2 верасня**

**Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна па ўсходу рэспублікі дажджы, месцамі з навальніцамі. Тэмпература паветра ў Гродна, Мінску, Магілёве, Віцебску — 18—20, Брэсце —19—21, Гомелі—22—24 градусы цяпла. У наступныя двое сутак месцамі па рэспубліцы кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ўначы 8—13, удзень — 18—23 градусы цяпла.**

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

**2 верасня**

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «У Пячорскія Альпы...» Кінанарыс.
**9.00.** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 6 клас.
**9.30.** «Сем тон долараў». Маст. фільм (Венгрыя).
**10.55.** Творчае аб'яднанне МЭТА. Тэлевізійны Дом кіно.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** «Сонечны круг». Фільм-канцэрт.
**17.05.** Мультфільмы.
**18.00.** Дак. фільмы.
**19.00.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.10.** Творчае аб'яднанне «Крок» прадстаўляе... «Пяць зорак». Тэлегульня.
**19.55.** «Ёсць куток на зямлі». Кінанарыс.
**20.05.** Селянін і рынак. Перадача з Віцебска.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Рэйтынг.
**21.55.** «Прыгоды Квенціна Дорварда, стралка каралеўскай гвардыі». Маст. фільм з субцітрамі.
**23.30.** НІКа.

**Канал «Астанкіна»**

**7.50.** «Дастаць да неба». Мультфільм.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць». Маст. фільм.
**9.50.** Дзіцячы музычны клуб.
**10.30.** Лімпапо.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Цыган». Маст. фільм. 2-я серыя.
**12.35.** «Юбілей». Кароткаметражны фільм.
**13.10.** «Каханне і зладзейства». Маст. фільм. 2-я серыя.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікс.
**15.10.** Блакнот.
**15.15.** Уолт Дысней прадстаўляе...
**16.05.** Рок-урок.
**16.45.** Дак. фільм.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** Крэшчэнда.
**17.40.** ТБ-«Нява». Тыдзень І Сусветнага кірмашу «Расійскі фермер». Выпуск 2-гі.
**18.00.** «Багатыя таксама плачуць». Маст. фільм.
**18.50.** Дак. фільм «Аляксандр Салжаніцын». Частка 1-я.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** «Хемінгуэй». Маст. фільм (Францыя—ЗША—Германія). 1-я серыя.
**22.30.** Студыя «Палітыка» паказвае. «Ваеннае рэвю».
**23.00.** Навіны.
**23.25.** «Каханне з першага позірку». Дзень 2-гі.

**Канал «Расія»**

**8.30.** Рэжысёр І. Сарокіна.
**9.10.** «Наведвальнік музея». Маст. фільм.
**11.30.** Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісу.
**12.25.** «Успомнім, браткі, росаў славу!»
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Бізнес: новыя імёны.
**15.15.** Сігнал.
**15.30.** «Пакахаў я цябе, мая радасць».
**16.15.** Хрысціянская праграма. А. Мень. Слова пра Біблію.
**16.45.** Там-там навіны.
**17.00.** Далёкі Усход.
**17.45.** М-трэст.
**18.00.** Тварам да Расіі.
**18.15.** Апазіцыя.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.35.** Прэзентацыя Саюза канцэртных дзеячаў Расіі.
**20.30.** Камера даследуе мінулае. «Рэзідэнт Рыхард Зорге».
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Што такое прыватызацыйны чэк.
**22.30.** Экзотыка.

**3 верасня**

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Прыгоды Квенціна Дорварда, стралка каралеўскай гвардыі». Маст. фільм з субцітрамі.
**10.20.** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок» прадстаўляе... «Пяць зорак». Тэлегульня.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Беларуская літаратура. 9 клас. Францыск Скарына — беларускі першадрукар.
**17.15.** «Пяць тыдняў на паветраным шары». Мультфільм.
**18.00.** Дак. фільм.
**19.00.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.10.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.15.** Як пачаць уласную справу. Дыялог амерыканскіх бізнесменаў.
**19.45.** Творчае аб'яднанне МЭТА. Выступленне ансамбля народнай творчасці «Кола».
**20.25.** Тыдзень беларускага ўрада.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Бізнесклуб «Партнёр».
**21.30.** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок» прадстаўляе... Курсавыя работы студэнтаў аддзялення тэлевізійнай рэжысуры Беларускай Акадэміі мастацтваў.
**22.40.** НІКа.

**Канал «Астанкіна»**

**7.50.** «Крылатае асляня». Мультфільм.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць». Маст. фільм.
**9.50.** Рок-урок.
**10.30.** «Дрэнная прыкмета». Кароткаметражны фільм.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Цыган». Маст. фільм. 3-я серыя.
**12.40.** «Такі доўгачаканы дзень». Кароткаметражны фільм.
**13.05.** «Каханне і зладзейства». Маст. фільм. 3-я серыя.
**14.00.** Навіны (з сурдаперкладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.10.** Блакнот.
**15.15.** Уолт Дысней прадстаўляе...
**16.05.** «Шэсць з шасці».
**16.45.** Іграе Л. Уласенка (фартэпіяна).
**17.00.** Навіны.
**17.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**17.45.** ТБ-«Нява». Тыдзень І Сусветнага кірмашу «Расійскі фермер». Выпуск 3-ці.
**18.00.** «Багатыя таксама плачуць». Маст. фільм.
**18.45.** «Аляксандр Салжаніцын». Дак. фільм. Частка 2-я.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** «Хемінгуэй». Маст. фільм. 2-я серыя.
**22.30.** Чорная скрыня.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Памяці Яўгена Мартынава.

**Канал «Расія»**

**15.00.** Тэрмінал.
**15.30.** Леанід Чалнакоў. «Аўтапартрэт з півонямі».
**16.00.** Пілігрым.
**16.45.** Там-там навіны.
**17.00.** Дэпутацкія канікулы.
**17.45.** Праграма «Ключ».
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Студыя «Нотабене».
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** За рамкамі «Вестак». Вядучы — У. Цветаў.
**19.45.** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**20.35.** Вялікая нарада. У праграме прымае ўдзел Старшыня Вярхоўнага Савета Паўночнай Асецііі А. Галазаў.
**21.00.** Пятае кола.
**22.00.** Весткі.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь,
калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін —32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850. Зак. № 176.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12